БЕЛАРУСКІ

# ЛЕТАПІС

Культурна-Грамадзкі і Літэратурны Месячнік

№ 4 САКАВІК 1937 г. ГОД II



А. С. ПУШКІН.

*1837 — 1937*

# ДА ЧЫТАЧОЎ.

У папярэднім нумары мы прасілі прысылаць складкі на „Бел. Летапіс". Многія з Вас адгукнуліся, многія яшчэ маюць даўгі. Наша Рэдакцыя змушана прасіць прысьпяшыць высылку доўгу, каб ня было затрыманьня ў далейшым выхадзе у сьвет часапісу. Хто ня хоча прычыніцца да затрыманьня росту друкаванага слова і беларускай культуры, няхай хутчэй спаўняе свой абавязак, бо журнал—яшчэ раз паўтараем—гэта наша культурна-грамадзкая трыбуна. Грошы перасылайце пераказам разрахунковым.

---



---

ЗЬМЕСТ:



---

**СКЛАДКІ:**
3 зл. 60 гр. на год
1 зл. 80 гр. на паўгода
асобны нумар 40 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:
Вільня, Каралеўская вуліца 3-8.
Конто: Rozrachunek 91.

# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК

**№ 4 Сакавік 1937 Год II**

А. С. ПУШКІН.

* * *

*Exegi monumentum.*

Я памятнік сабе стварыў нерукатворны,
Лягла народным шляхам да яго зара,
Ён перавысіў галавою непакорнай
І мармураў, і бронзы грань.

Не! Увесь я не памру! Мой дух у песьнях сьмелы
Перажыве магіл кароткі ціхі век,
І слаўным буду я пакуль на сьвеце цэлым
Адзін хоць будзе чалавек.

Слух аба мне пайдзе па ўсей маей краіне,
І кожны зразумее вольны мой язык:
І горды ўнук славян, і дзесь на сопках сініх
Тунгуз, і брат стэпоў калмык.

Таму я доўга буду ведамы народу,
Што лірай лепшыя надзеі прабуджаў,
Што ў мой пануры век я апяяў свабоду
І міласьць ў сэрца заклікаў.

Натхненьню вольнаму будзь паслухмянай, муза!
Ня бойся крыўды, не жадай вянка,
Не пераймайся славаю і ў спрэчках дужа
Лепш не мазоль ты языка.



# Вязень.

У цэлі панурай мінаюць гады.
Ўзгадованы воляй арол малады,
Мой сумны таварыш сінеючых гор,
Дзяўбе пад вакном акрываўлены корм,

Дзяўбе і кідае, за краты глядзіць,
Як быццам адно са мной марыць і сьніць;
І поглядам кліча, і крыкам сваім
І хоча сказаць мне: „давай паляцім“!

„Мы вольныя птушкі пара, брат, пара,
Туды, дзе сьнягамі вяршыны гарацъ,
Туды, дзе сінее краіна мая,
Дзе вецер гуляе свабодны... ды я!..

---

# Анчар.

(Дрэва атруты)

Ў пустыні, ў сонечным агні,
На грунце бедным амярцьвелым
Анчар, як грозны вартаўнік,
Стаіць адзін ў сусьвеце цэлым.

Прырода высахшых стэпоў
Яго радзіла ў дзень пакуты
І ад карэньня да лістоў
Ўліла сьмяротную атруту.

Як толькі сонца стане грэць,—
Атрута капае, расіцца,
Пад вечар стыне на карэ
Густой празрыстаю жывіцай.

На ім і птушка не спачне,
Зьвер сьледу блізка не пакіне:
Часамі вецер ахіне, —
Сьмяротны веець над пустыняй.

Ці хмара з дальных берагоў
Над дрэвам, блудзячы, заплача,
Атрутны дождж з яго лістоў
Сплывае у пясок гарачы.

Ды чалавека чалавек
Паслаў загадам да анчару.
Пайшоў нявольнік і ледзь сьвет
Прынёс з сабой атруты чару.

Прынёс сьмяротную смалу,
Ад сонца зьвяўшы ліст зялёны,
А пот на вопраткі палу
Крынічыў з твару, плыў сьцюдзёны.

Прынёс змарыўшыся і лёг
У ценю на сухія лыкі,
Памёр скруціўшыся ля ног
Непераможнага ўладыкі.

А цар атрутай спаласкаў
Стальныя стрэлы - навальніцы
І гібель з імі разаслаў
Ўдаль за суседнія граніцы.

---

* * *

Для родных берагоў айчыны
Ты пакідала край чужы;
У векапомную гадзіну
Я доўга плакаў і тужыў.
Дарма гаіў надзеяй раны,
Цябе хацеў я затрымаць;
І час апошняга разстаньня
Маліў я не перарываць

Але ад пацалункаў горкіх,
З зямлі выгнаньня і чужой,
На нівы родныя, узгоркі
Мяне ты клікала з сабой.
„У дзень спатканьня, дзе магучы—
Казала — хваль шуміць напеў,
Мы пацалункі свае злучым
Ў зялёнахмарнай цені дрэў“.

Ды там, дзе небасхілу далі
Гараць у сонцы залатым,
Дзе сіняй песьняй шэпчуць хвалі,
Апошнім сном заснула ты.
Краса і дні цярпеньняў раньніх
Ў зямлі схаваліся сырой —
І пацалунак зьнік спатканьня...
Ды жду яго: ён за табой!..

*Пераклад Максіма Танка.*

---

# Пушкін сярод сусьветных геніяў паэзіі.

Толькі што адбытае ўрачыстае памінаньне вялікага расейскага паэта — *Пушкінскае сьвята,* — пацьвярдзіла яшчэ раз *сусьветны характар паэзіі Пушкіна.* Пушкін увайшоў у невялічкую лічбу сусьветных геніяў паэзіі. Але ў Пушкіна гэтая яго „належнасьць да ўсей людзкасьці“ мае нейкі зусім асаблівы сэнс і характар.

Да найвялікшых геніяў паэзіі, як мы ведаем, належаць і італьянец Дантэ, і немец Гетэ, і англійцы Шэкспір і Байрон, і паляк Міцкевіч. Але ўсе яны маюць у сваім рэзка выражаным індывідуальным духоўным абліччы цэлы рад рысаў, якія робяць іх не для ўсіх зразумелымі, блізкімі, роднымі, сымпатычнымі. Дантэ — гэта „ваюючы каталік“, розум і сэрца якога блізу напалову падзелены паміж любоўю і ненавісьцяй, над душой якога мае магічную ўладу цэлы вялізарны гмах штучна збудаванага сярэднявечнага царкоўнага сьветапагляду. Байрон таксама, але ўжо з іншага гледзішча, ня мае ў сабе гэтай агульна-людзкай зразумеласьці, блізкасьці, роднасьці для ўсіх. Гэта — „горды тытан“, „багаборца“, рэзка выражаны аж да нейкага „дэманізму“ — тып барацьбіта за абсалютную волю індывідуальнай адзінкі, якая ў гэтай барацьбе кідае вызаў ня толькі грамадзянству й людзкасьці, але й самой Прыродзе, нават — самаму Богу .. Значна больш унівэрсальным геніем паэзіі зьяўляецца немец Гетэ. Але і яго паэзія мае ў сабе шмат нейкага асаблівага „холаду“, філёзафічнага разуму, так званай “олімпійскасьці“, гэта значыць —

спакойнага, бяз узварушэньня нагляду над чалавечым жыцьцём з яго нядоляй і жудой, ад якіх, як ведама, адхілялі свой твар жыхары грэцкага Олімпу. Яшчэ больш агульна-людзкай — у сэнсе агульнай зразумеласьці і прастаты — ёсьць паэзія нашага брата-славяніна, напалову беларуса, Міцкевіча. Але ў яго паэзіі, як ведама ёсьць адна рыса, якая значна звужае значэньне гэтае паэзіі. Гэта ёсьць тая *„сьвятая ненавісьць“ да ворага-душыцеля вольнага жыцьця адзінкі і цэлага Народу,* якім была сучасная яму Расея. А з гэтай рысай зьвязана ў Міцкевіча *„зачыненасьць душы“* для ўсяго іншага, што безпасярэдна не датычыць даволі вузкага нацыянальнага сьвету паэта і нацыянальнай трагэдыі ягонага народу.

Зусім іншага тыпу была творчая душа расейскага песьняра Пушкіна. Ён ня мае ані ценю таго „духоўнага рабства“, паняволеньня зложанай і цяжкай царкоўна-рэлігійнай дактрынай, пад ціскам якой, быццам пад цяжарам сярэднявечнага сабору, жыў і тварыў Дантэ. Душа яго вольная, шырокая, адчыненая для „усіх уражаньняў быцьця“, як быццам толькі што выйшла з рук маткі-прыроды. Ад уплыву Байрона Пушкін вызваліўся вельмі хутка, як ад чужое стыхіі. Хаця-ж самога паэта, яго слаўную дзейнасьць, барацьбу і геройскую сьмерць за вызваленьне паняволеннага грэцкага народу, на пагляд такога далёкага яму, Пушкін цаніў вельмі высока. Вельмі мала мае Пушкін духоўнага сваяцтва і з нямецкім геніем Гетэ. Пушкіну быў зусім чужы ягоны філёзофічны дух, які зразумела-ж, складаючы *нацыянальную рысу немца,* ня быў аднолькава зразумелым для ўсіх людзёў і народаў. Пушкін, жывучы ў адных часох з вялікім нямецкім паэтам, блізу не цікавіўся яго творствам. Бліжэй за ўсіх гэтых братоў-геніяў да Пушкіна стаяў *„душою славяніна“* Міцкевіч. У знамянітым вершы да Міцкевіча Пушкін ясна выказаў, чым блізкі і дарагі быў для яго Міцкевіч, што іх лучыла з Міцкевічам і што падзяліла і разлучыла. Лучыла абодвух паэтаў любоў да паэзіі, яе „чистыя мечты и песни“. Лучылі летуценьні „о временах грядущих, когда народы распри позабыв в единую семью соединятся“. Але разлучыла братоў-паэтаў якраз тая „песьня ненавісьці“, якую засьпяваў польскі песьняр Расейскай дзяржаве, паняволіўшай ягоны народ. Паэты разышліся тады, калі дасьпеўшую ўжо да чыннай барацьбы волю Міцкевіча, як грамадзяніна і духоўнага павадыра свайго народу, паклікала на змаганьне ягоная „міссія“, калі ен ад „чистой мечты“ перайшоў да дзеяньня, калі, інакш кажучы, польскі паэт пачаў рабіцца ўжо *ня толькі паэтам,* але і чынным барацьбітам... Да гэткага дзеяньня Пушкін, як ведама, *ня быў здольны.* У гэтым яго слабасьць, як *грамадзяніна свайго народу, у гэтым яго сіла, як паэта ня толькі свайго народу, але і сусьветнага „усе-чалавечага“...*

---

„Пушкин — поэт чистой человечности“. „Пушкин — поэт чистой красоты“. Такія, як ведама, ёсьць старыя, клясычныя азначэньні асаблівасьцяў Пушкінскае паэзіі, дадзеныя яшчэ знамянітым расейскім крытыкам Белінскім. Гэтыя азначэньні вытрымалі даўно спробу часу і пацьвярджаюцца — чым далей, тым глыбей і мацней.

„Тытанам“, як Байрон, „олімпійцам“, як Гетэ, „народным трыбунам“, як Шыльлер, абаронцам таго ці іншага паняволенага народу, апроч свайго, можа быць неўсякі, і не ўсякі *павінен быць... Але чала-*

*векам ня толькі можа, але і павінен быць уеякі, „чалавекам наагул" у „чыстым" вышэйшым, а адначасна і простым сэнсе гэтага слова.*

„Пушкінская чалавечнасьць" ёсьць узапраўды-ж *агульна-людзкай падставай ўсіх тых іншых тыпаў паэта-чалавека*, якія прадстаўляюць сабою пералічаныя вышэй геніі сусьветнай паэзіі. Больш таго: *з вытыні*, ці *з глыбіні гэтай „падставы", гэтага ідэалу чалавечнасьці, які жыве ў паэзіі Пушкіна, трэба судзіць аб усіх тых іншых тыпах чалавечнасьці*, якія ўвасабляюць пералічаныя паэты, ды ў якіх у тэй ці іншай меры *нарушалася „Богам і прыродай наперад устаноўленая гармонія і чыстая краса чалавечае душы"*.

Кажучы ўсё гэта, мы зусім ня ставім Пушкіна вышэй за Байрона, ці за Гетэ, ці Дантэ. Зусім не. Тыя ўсе былі шмат больш *зложаныя натуры і індывідуальнасьці*, у якіх, *апроч душы паэта, жылі яшчэ іншыя „душы"*, ці *„духі"*. Гетэ, прыкладам, так і казаў аб сабе, што „у яго сэрцы жывуць дзьве душы, якія йшчэ імкнуцца да таго, каб аддзяліцца адна ад аднэй". У Пушкіна была запраўднай душой, панаваўшай над усёй яго істотай, адна толькі *душа паэта. І толькі яна была зусім неабмыльнай...* Таму мы зусім не апраўдываем Пушкіна за „грахі яго біографіі", „слабасьць грамадзяніна" і г. д. Пушкін для ўсяго сьвету, для ўсіх народаў, ёсьць тая сіла ягонае „паэтыцкае душы", якая магутней за ўсіх іншых паэтаў, і ўсё шырэй і шырэй захапляючы ўвесь сьвет, робіць чалавека *чалавекам*, як трафна адзначыў нехта ў часе апошніх „пушкінскіх дзён".

Да гэтага клясычнага азначэньня Белінскага дадаў, як ведама, другі геній расейскага духоўна-творчага сьвету, Дастаеўскі, па свайму паходжаньню беларус, рад іншых азначэньняў, якія, аднак, усе цесна зьвязаны з гэтым агульным.

„Пушкін, — казаў Дастаеўскі ў сваёй знамянітай прамове на ўрачыстасьці адкрыцьця памятніка Пушкіну ў 1880 г, — ёсьць ня толькі *чалавек* у чыстым сэнсе слова: *Пушкін ёсьць дзеля таго і „усечалавек"*. Пушкін гэтым як быццам увасабляе ў сабе галоўную і аснаўную сутнасьць расейскага народу, яго запраўдную душу, якая выразілася зусім не ў яго напалову, калі не больш, *нямецкай* дзяржаўнасьці, але як раз у *паэтыцкім творстве народу, з якога натуральна і арганічна вырасла* паэзія Пушкіна".

Вось гэтыя дзьве, як быццам, супярэчныя рысы: найцясьнейшая блізкасьць да свайго народу найглыбейшая запраўдная *народнасьць* паэзіі Пушкіна і адначасна — яе *найшырэйшая „усечалавечнасьць", якая абыймае літэральна ўвесь сьвет, для якой блізкімі і зразумелымі ёсьць усе народы, усе культуры ўсіх вякоў*, вось гэтыя рысы творчай інтуіцыі Пушкіна і ёсьць *тым мастом*, які лучыць усе жывыя народы з паэзіяй расейскага паэта. Праўда, гэтыя рысы ёсьць блізу ва ўсіх запраўды вялікіх паэтаў, інтуіцыя якіх заўсёды *пазнае і ўскрашае далёкае ў часе і ў прасторы*, зусім не бачанае імі жыцьцё. Але Пушкін сярод іх усіх, як сказана, прадстаўляе найвялікшае дзіва: маючы так ярка выяўленую ў ягонай паэзіі расейскую народна-нацыянальную душу, ён адначасна ёсьць запраўдным *„усе-чалавекам"*.

---

Адзначаныя Белінскім і Дастаеўскім дзьве галоўныя рысы Пушкіна робяць яго блізу родным і для беларускага народу. А гэта тым больш, што цэлыя пакаленьні беларускай інтэлігенцыі, як ведама,

узгадаваліся на паэзіі Пушкіна. Асаблівую важнасьць для нас у паэзіі Пушкіна мае той жывы ідэал чалавечае красы, які дышыць у кожным вершы паэта, які адначасна зьяўляецца і агульна-людзкім, перамагаючым абсалютнай навочнасьцяй красы. Другая рыса, ня менш важная для беларусаў, асабліва-ж для нашых паэтаў, гэта — рыса *Народнасьць*. Паэзія Пушкіна найлепш — паміма ўсялякіх тэорыяў — даказала, *што запраўдная краса паэтыцкае думкі і мастацкага слова мае сваю крыніцу ў творчай душы ўласнага народу*, што індывідуальная творчасьць паэтаў, нават найвялікшых геніяў, сьпярша жыве вякамі, як быццам „рашчыненая“ у вялікай, бязьмежнай, як мора, творчай душы народу. Усей сваей творчасьцяй Пушкін узьвялічываў народную душу — душу тагачаснага расейскага *прыгоннага селяніна*, так сама прыгнечанага жыцьцём, як селянін беларускі, і так сама здольнага да творчае працы ў галіне паэзіі, як наш селянін. Вось чым асабліва блізкі і дарагі для нас беларусаў, найвялікшы паэт расейскага народу, які ў часы страшнага ўціску ўсіх вольных праяў творчага чалавечага духа меў адвагу так голасна пяяць пра волю.

---

# Жыцьцё і сьмерць А.С.Пушкіна.

Сто гадоў мінула з тае пары, калі памёр Пушкін. У гэтыя дні векавога юбілея не лішнім будзе успомніць пра паэта, пра тое як ён жыў, тварыў, змагаўся, гарэў і нарэшце трагічна згінуў у расьцьвеце сваіх творчых сілаў.

Радзіўся Пушкін у Маскве 26 мая 1799 году ў знатнай але зьбяднеўшай дваранскай сям'і. У дзіцячых гадох Пушкін не выяўляў нічога надзвычайнага: гэта быў непаваротлівы, спакойны хлопчык, якога бацькі не любілі за тое, што ён не падобны быў да іншых дзяцей. Матка перасьледавала за гэта паэта, ён хаваўся ў свае бабкі М. А. Ганібал у кошык для ручной працы, дзе ўжо ніхто не сьмеў зачапіць яго. Бабуля і нянька Арына Радзівонаўна былі першымі настаўнікамі паэта расейскай мовы. Толькі з імі паэт і мог гутарыць па расейску, бо ў бацькавым доме панавала выключна француская мова.

На сёмым годзе жыцьця Пушкін зьмяніўся да непазнаньня: ён стаў свавольным і вясёлым. Вучыўся дрэнна, бо ў тых вучыцялёў, што наймаў бацька, нельга была вучыцца добра: гэта былі пераважна неадукаваныя французы, якія любілі нічога не рабіць, жыць коштам чужым,— гэта былі такія вучыцялі, якіх расейскія дваране бралі да сваіх дзяцей „числом поболее ценою подешевле“. Першыя вершы Пушкіна былі напісаны па француску. Але гувэрнанткі жорстка перасьледавалі паэта за гэтыя „глупства“, якія адбіраюць час ад „сур'ёзных“ заняткаў. Праўда былі дзецкія ўражаньні, пакінуўшыя глыбокі і дадатні сьлед у паэтычным сэрцы хлопчыка. Ён летам езьдзіў на вёску, дзе бачыў як спраўляліся народныя сьвяты, вадзіліся карагоды. Да нянькіных казак далучыліся народныя песьні і гульні — натуральная жывая сялянская поэзія.

Разьвіцьцё, якое нечакана прабудзілася ў маладога паэта, незьмяніла да яго адносін з боку бацькоў. 19-га кастрычніка 1811 году

Пушкін пaступае ў Царскасельскі ліцэй; з легкім сэрцам і нават з радасьцю пакінуў бацькаўскі дом. Першы верш паэта па расейску быў напісаны ўжо ў ліцэі Тут прабудзіўся геній Пушкіна і трэба сказаць прабудзіўся рана. Ад 1814 году яго творы ўжо зьяўляюцца ў друку. Будучы ў ліцэі Пушкін напісаў 120 вершаў і пачаў паэму „Руслан і Людміла.“ У 1815 годзе на публічных экзаменах Пушкін зачараваў усіх сваімі вершамі.

Пасьля ліцэя яго назначылі чыноўнікам у Калегію Загранічных Спраў. Аднак ён не цікавіцца зусім кар'ерай урадоўца, а далей працуе над паэзіяй, канчае „Руслана і Людмілу“, спачувае вольным ідэям, выражае гэтае спачуцьцё ня толькі ў гутарках, але і ў вершах, якія быстра расходзяцца сярод моладзі.

Царскі ген.-губернатар аднаго разу заклікаў Пушкіна да сябе і прыказаў паліцмайстру ехаць да паэта на кватэру і зрабіць вобыск. Пушкін заявіў, што ўсё небяспечнае спалена, але няхай яму дадуць пяро і чарніла, то ён з памяці зноў усё напіша. Оды Пушкіна і эпіграмы на ўсемагутнага Аракчэева ўважаліся палітычным праступствам. Пушкіну пагражала высылка на Сібір ці на Салаўкі. За яго заступіліся важныя ўплывовыя асобы. Але ў Пецярбурзе разыйшоўся слух, што раней усякай іншай кары. над Пушкіным учынілі фізычную кару. Пры тых дзікіх парадках усё была магчыма. І вось Пушкін у вялікай роспачы гатоў на праступства, каб толькі яго ўзапраўды выслалі на Сібір, нават гатоў на самагубства...

Але ўсё скончылася яшчэ досыць добра: замест Саловак ці Сібіру Пушкіна выслалі на поўдзень. Там ён піша паэмы: „Бахчысарайскі фантан“, „Каўкаскі нявольнік“, „Цыганы“, пачынае „Аўгенія Анегіна“. Генералы, якім быў падпарадкаваны Пушкін, бачаць не Пушкіна - паэта, а Пушкіна - урадоўца, „коллежскаго секретаря“, ды яшчэ патомка нейкага там „негрытёнка“. Дзеля гэтага Пушкін павінен знаць сваё мейсца! Гарачая і гордая натура паэта ўзбунтавалася, ён ня можа перанясьці пыхі генерала графа Воранцова і вылівае душу ў насьмешках і эпіграмах. Аднаго разу паслалі Пушкіна ў стэпы Украіны бароцца з саранчой. Пушкін палічыў гэта за абразу і замест саліднага рапарту прыслаў начальству такі верш:

Саранча летела, летела
и села.

Сидела, сидела — все с'ела
и вновь улетела.

Граф дамагаўся высылкі непакорнага паэта „куда-нибудь, вглубь России“. Гэта было ў 1824 годзе.

Пецярбург паслухаў довадаў графа. Пушкіна звольнілі са службы і выслалі ў сяло Міхайлаўскае. Наглядаць за паэтам даручылі мяйсцоваму начальству, архімандрыту манастыра і роднаму бацьку. Бацька вельмі ахвотна прыняў на сябе ролю жандарма - даношчыка на свайго „блуднага сына“. Цяжкія сцэны былі паміж імі; адну з гэтых сцэн Пушкін выкарыстаў для свайго „Скупога рыцара“. Вось тут, калі Пушкіну дадзела апека ўсялякіх жандармаў, ён у роспачы кідае фразу: —„Дагадаў мяне чорт урадзіціся ў Расеі з душою і талентам!“ Гэты пэрыяд прыяцелі Пушкіна гатовы былі палічыць шкодным для ягонага таленту: Пушкін назаўсёды будзе страчаны! Але-ж нічога падобнага. Ён чытае, вучыцца, мае сутычнасьць з народам, зьбірае народную

творчасьць, здабывае ўсё неабходнае для свайго разьвіцьця. Ён просіць кніг. Яго старыя прыяцелі прысылаюць кнігі. І чаго толькі тут няма. Біблія, Каран, Вальтар-Скот, Байрон, Шэкспір, „Запіскі Фушэ", Карамзін і многа, многа іншых. Усё чытаецца, аб усім робяцца зацемкі, штодня з ранку і да вечара. Прыгонная нянька Арына Радзівонаўна ня толькі адчыніла яму скарбы душы расейскага народу сваімі казкамі і песьнямі, але больш таго, яна заступіла для яго родную матку, якая проста ненавідзела свайго сына. І любіў-жа Пушкін „сваю няню" і называў яе заўсёды *мамаю!*

Усё глыбей уваходзіць паэт у народную стыхію, вывучае народную мову, пераапранаецца мешчанінам, ходзіць па кірмашы; прыдзе ў народ, там гульні, а ён сядзе на зямлю, сабярэ жабракоў ды сьляпых, яны яму песьні пяюць, вершы сказваюць. Морадасьць з яе байранаўскімі парывамі адыходзіць у даль. Іх месца займае спакойная ўсебаковая ўдумчывасьць, мудрае зразуменьне шэрай, сумнай, нязносна цяжкай расейскай сапраўднасьці, аб якой паэт з болем у сэрцы пісаў яшчэ ў 1819 годзе, калі першы раз прыехаў у сяло Міхайлаўскае:

Но мысль ужасная здесь душу омрачает:
Среди цветущих нив и гор
Друг человечества печально замечает
Везде невежества губительный позор.

Не видя слёз, не внемля стона,
На пагубу людей, избранное судьбой,
Здесь барство дикое без чувства, без закона,
Присвоило себе насильственной лозой

И труд, и собственность, и время земледельца.
Склонясь на чуждый плуг, покорствуя бичам,
Здесь рабство тощее влачится по браздам
Неумолимого владельца.

Здесь тягостный ярем до гроба все влекут,
Надежд и склонностей в душе питать не смея.
Здесь девы юные цветут
Для прихоти развратнаго злодея.

Опора милая стареющих отцов,
Младые сыновья, товарищи трудов,
Из хижины родной идут собою множить
Дворовые толпы измученных рабов.

І ўзапраўды памешчыкі за часоў Пушкіна былі самыя дзікія. Адзін з буйнейшых пскоўскіх памешчыкаў А. Львоў засекаў сваіх сялян да сьмерці. Адна прыгонная дзяўчына адмовілася стаць яго любоўніцай і за гэта была зацкаваная сабакамі. Розгі, бізуны, жалезныя ланцугі, калодкі на ногі — былі звычайнымі срэдствамі, якія тасаваліся да селяніна, каб змусіць да працы на памешчыка. Падаваць на памешчыка скаргі нельга было, забаронена законам. Падкупленая паліцыя скрывала ўсе жорсткія праступствы „дзікого барства". Усіх, хто адважыўся-б, як Пушкін, загаварыць аб гэтых дзікасьцях спатыкала жорсткая кара. Нават за вершы Пушкіна ў рукапісах, якія разыходзіліся ў тысячах экзэмпляраў, знойдзеныя ў аднаго кандыдата Маскоўскага Ун-ту, Сэнат выдаў прысуд: адабраць ад яго унівэрсытэцкі дыплём, а самага кандыдата здаць у салдаты, або вы-

слаць на Сібір. Нават двух гвардзейскіх афіцэраў, знаёмых няшчаснага кандыдата, пасадзілі ў крэпасьць.

---

У Міхайлаўскім Пушкін напісаў драму „Барыс Годунов“ і прачытаўшы сам біў сабе браво: —„Ай, да Пушкін“! Ён ведаў, што тагачасная Расея яшчэ не дарасла да яго, каб даць здаровую ацэну гэтага твору. Шэсьць гадоў ён не здаваў у друк „Барыса Гадунова“, бо ня меў даверра да густу публікі і крытыкаў. І не памыляўся. Крытыка жорстка расправілася з „Барысам Годуновым“. Толькі адзін Белінскі з яго сьветлым розумам, прызнаў значэньне гэтага твору.

У 1825 годзе Пушкін перажывае ў сваім сяле разгром дзекабрыстаў. На пачатку сам хацеў ехаць у Пецярбург. Але што-ж калі дзекабрысты не прынялі яго ў свой круг? Можа не хацелі на выпадак няўдачнага паўстаньня рызыкаваць геніяльнаю галавою Пушкіна?... Паэт застаўся ў Міхайлаўскім, напісаў да цара пісьмо, абяцаўся, што далей ня будзе ісьці проці існуючага ладу.

Праз год у 1826 годзе Пушкіна з фельд'егерам даставілі да цара, які першым чынам запытаўся ці далучыўся-б ён да паўстаньня дзекабрыстаў, калі-б быў тады ў Пецярбурзе. Пушкін адказаў, што абавязкава далучыўся-б, бо там былі ўсе яго прыяцелі. Такі сьмелы адказ зрабіў уражаньне на цара-дэспата, які на знак асаблівай міласьці да паэта ўзяўся быць цэнзарам твораў Пушкіна і дазволіў яму жыць у Пецярбурзе.

Пачынаецца новы пэрыяд у жыцьці Пушкіна. 18 лютага 1831 г. ён узяў шлюб з сьвецкай красуняй Натальляй Ганчаровай. Для Пушкіна сям'я была зацішным куточкам, дзе ён мог спакойна працаваць. Для жонкі аднак патрэбна было нешта другое. Яна прыгожая, заўсёды павінна пасьпець на балы ды вечары. Пушкін знаў цану „высшага сьвету“ уважаў, што гэта „агідная, гразная лужа“, самая запраўдная „чернь“, так ненавісная паэту. У гэты пэрыяд Пушкін напісаў свае казкі, закончыў „Русалку“, „Капітанскую дачку“, „Дуброўскага“ прыгатаваў матар'ялы з „Гісторыі Пугачоўскага бунту“. У канцы 1833 году яго „пожаловали“ камер-юнкерам і далі 20.000 рублёў на друк яго „Гісторыі Пугачоўскага бунту“. Можна было падумаць, што жыцьцё паэта наканец на добрай дарозе. Але ў запраўднасьці як раз лёс паэта ад 1834 году ідзе да трагічнае разьвязкі.

---

Пецярбургскае грамадзянства, так званы „высшій свет“, не магло мець пашаны да вялікага паэта, бо гэта быў „неблагонадежный, поднадзорный“ чалавек, ды яшчэ негрыцянскага паходжаньня. Не вычувалася гэтае пашаны і з боку сучаснае літаратуры. На чале яе стаіць Булгарын, выдавец „Северной пчелы“, якая поўнасьцю была ў руках ураду. Артыкулы для свайго журналу Булгарын даставаў проста з ахранкі. Такая літаратура не прызнавала за Пушкіным ніякіх заслугаў, ніякага таленту „ни одной высокой мысли, ни одного возвышенного чувства, ни одной полезной истины“. Пушкіна абурала такая манаполія на літаратуру, ён прыступае да выдаваньня свайго журнала „Современник“.

„Северная пчела“ на гэта пачала даводзіць, што Пушкін як

журналіст, сябе панізіў: „стал рабом толпы". І тут вычувалася рука ўсеўладнага шэфа жандармаў Бэнкендорфа.

Пушкін не хацеў быць у даўгу: выкрываў грахі Булгарына, сыпаў эпіграмы на мін. асьветы і галоўнага цэнзара графа Уварава, заўсёды быў гатовы даць ня толькі адпор, але і напад зрабіць на праціўніка. Мін. Увараў выгаварыў Пушкіну, пашто ён пазволіў сабе абсьмяяць эпіграмамі „почтенных і заслуженных людзей". Пушкін уськіпеў і адказаў графу:

— Якое права маеце рабіць мне выгавор, калі ня маеце пэўнасьці, што гэта мае вершы.

— Але ўсе кажуць, што вашы, — запярэчыў Увараў.

— Мала што кажуць! А вось на вас я напішу вершы і надрукую за сваім подпісам.

Узапраўды пасьля гэтага Пушкін піша сатыру — „На выздоровление Лукулла". Сатыра — злая насьмешка над міністрам Уваравым, над яго няўдалымі замысламі захапіць багатую спадчыну захварэўшага сваяка. У выніку — новы вызаў да Бэнкендорфа, аб спатканьні з якім расказвае сам Пушкін.

— „Мушу давясьці да вашага ведама, — кажа Бэнкендорф — прыкрую справу адносна гэных вашых вершаў. Хоць вы і назвалі іх перакладам з латыні, аднак грамадзянства расейскае ўжо на толькі асьвечана, што ўмее чытаць паміж радкамі...

— „Зусім згаджаюся і радуюся за разьвіцьцё нашага грамадзянства. Але дазвольце запытаць, хто гэтая нешчасная асоба, якую вы пазналі ў маей сатыры?

— „Не я пазнаў, а граф Увараў пазнаў сябе і прасіў данесьці цару. І нават што вы сказалі напішаце аб ім вершы.

— „Сказаў, не адракаюся... Толькі гэныя вершы не на яго пісаны.

— „А на каго-ж?

— „На вас.

„Бэнкендорф вытрашчыў вочы, ускрыкнуў:

— „Што? На мяне? — і схапіўшы журнал пачаў тыкаць пальцам у пэўныя мейсцы вершаў і сказаў:

— Паслухайце, сочинитель! Што-ж гэта такое? Ну, няньчыў дзяцей вельможы, абманваў жонку — гэта глупства. Але вось казенныя дровы краў! Што вы на гэта скажаце?

— Скажу тое, што вы сябе не пазналі тут.

— Ды ці-ж я краў казённыя дровы?

— То выходзіць, што Увараў краў, калі прыняў гэта на сябе.

Бэнкендорф зразумеў Пушкіна і толькі прамарматаў:

— Гм! Да!.. Сам вінаваты.

Зразумела, што такая вайна не давала паэту супакою. Жыцьцё яго становіцца немагчымым, характар рэзка мяняецца. А гэтым усім зладзейскім спосабам карыстаецца той самы „высшій свет", які заўважыў самую чулую рысу ў характары паэта — яго хвараблівы страх за добрае імя жонкі, — і на гэты страх была накіравана ўся праступная ўвага тых аматараў скандалаў, пра каго пазьней будзе пісаць Лермантаў: — „Свободы, генія і славы палачы".

Як раз знайшоўся адпаведны суб'ект — францускі эмігрант Жорж Дантэс, — якога цар Мікалай прыняў на службу у гвардыю.

Пустое сэрца Дантэса болей адказвала царскаму двару і „высокаму сьвету", як геній Пушкіна. Рука умыслова абмяжаванага Дантэса была накіравана проці Пушкіна расейскімі прыдворнымі арыстакратамі. Сам цар пры гэтым згуляў ролю Пілата. Дантэс пачаў настойліва ухажываць за жонкай Пушкіна. Няведамыя асобы пачалі пісаць ананімы, прысылаць дыплёмы Пушкіну на годнасьць „историографа ордена рогоносцев". Паэт быў змушаны актыўна выступіць на абарону сваей чэсьці. Усё, што да гэтага часу тлуміў і затрымліваў на дне гордай душы, захвалявалася і закіпела ў ім. У асобе Дантэса Пушкін кідае вызаў усяму пецярбугскаму грамадзянству.

Ён ужо ня меў маральнае сілы абыйсьці ілжывы сьвет пагардаю і прыняў апошнюю сьмяротную спрэчку з „глупцами жестокаго века".

Натхненьне пакінула яго ў гэтыя цяжкія хвіліны жыцьця. Адчуваючы, што для яго ўсё і назаўсёды скончана, ён напісаў яшчэ адзін верш — „Памятнік" — магутны і горды эпілёг да сваей літаратурнай дзейнасьці. Такім языком мог гаварыць толькі геній.

27 студзеня 1837 г. адбылася дуэль, на якой Пушкін быў цяжка ранены, а праз два дні 29 студзеня 1837 году перастаў жыць.

Цела Пушкіна адразу было адданае пад нагляд паліцыі; у царкву перанясьлі ноччу, па вуліцах паставілі вайсковую сілу і ноччу-ж пад эскортай жандармаў адправілі ў пскоўскую губэрнію і пахавалі ў Сьвятагорскім манастыры. Сьмерць Пушкіна ускалыхнула народнае сумленьне, абудзіла грамадзкую апінію. Усе клясы пецярбургскага насельніцтва пайшлі пакланіцца целу паэта. Моладзь хацела нясьці труну на руках да царквы. Да моладзі хацелі далучыцца многія паклоньнікі Пушкіна. Але цар і жандармы сталі паміж грамадзянстам і паэтам. Толькі на правінцыі гора і сум выяўляліся свабадней. У казанскім унівэрсытэце прафэсар літаратуры ўзышоў на катэдру і заместа, каб пачаць лекцыю, громка сказаў: „устаньце"! — падняў газэту і ўзварушаным голасам прачытаў: „Сонца нашае паэзіі закацілася. Няма болей Пушкіна." Аўдыторыя ахнула ў адзін голас, пасыпаліся сьлёзы. Прафэсар сеў і, схіліўшы на катэдру сівую, як серабро, галаву, заплакаў. Прайшло некалькі хвілін. Ён устаў і сказаў: — „Князь расейскіх паэтаў не жыве. Яго цела вязуць далёка некуды з Пецярбурга. Пры адкрытай труне Пушкіна, як гаварыць аб расейскай літаратуры?..

Але найпрыгажэйшымі провадамі былі вершы Лермантава аб вечнай красе паэта і зьніштажаючая мова да тых патомкаў „известной подлостью прославленных отцов", якія забілі Пушкіна. Вершы разыйшліся ў дзесятках тысячаў рукапісных экзэмпляраў. Лермантаў пасьля гэтага быў высланы. Гогаль таксама прынёс свой вянок на труну Пушкіна — сваю глыбокую жальбу. Ён да самай сьмерці ўспамінаў: „Пушкін! Які-ж гэта прыгожы сон я бачыў у жыцьці!"

Царская Расея паставіла Пушкіна на Галготу і замучыла, — Народная Расея аплакала горкімі сьлязамі і ўскрасіла, як свайго генія.

*Г. Ш.*

СПОЎНІЦЕ СВОЙ АБАВЯЗАК —

ПРЫСЫЛАЙЦЕ СКЛАДКІ І АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦТВА.

# Наша культура калісь і цяпер.

(Заканчэньне).

Што-ж зрабілі мы за гэты сьмешна кароткі для гісторыі народаў час, з чым народ наш уваходзіць ізноў у сям'ю культурных народаў, да якое ў мінуўшчыне бясспрэчна належаў?

У трох кірунках пайшла беларуская культурная творчасьць адраджэнскае пары: літаратура, мастацтва, навука. Але першае мейсца тутака заняла **літаратура**. Лішне многа мае беларус сказаць аб сабе пасьля векавога маўчаньня — усяму сьвету; лішне многа пачуцьцяў хвалюе яго душу, лішне многа абразоў — пераважна сумных, часта — жудасных, як ягонае жыцьцё, ірвецца з гэтае душы, каб знайсьці сваё выяўленьне ў жывым мастацкім слове. І расцьвітае беларуская паэзія гэтак буйна, што ў працягу трыццацёх гадоў наша паэтыцкяя творчасьць перажывае тую-ж даўгую эвалюцыю, якую ў працягу стагодзьдзя перажывалі літаратуры найбольш культурных народаў, ад сантымэнталізму і романтызму, праз народніцкі натуралізм пераходзячы да найнавейшых кірункаў — нэоромантызму, сымболізму, футурызму. Эстэтызм і містыка, ідэалізм і рэалізм, сялянскасьць і пралетарскасьць ідуць тутака поплеч. І ў кожным кірунку, у кожнай галіне паэтыцкае творчасьці беларусы даюць рэчы вялізарнае мастацкае вартасьці, рэчы, якія стаяць на адным роўні з найвыдатнейшымі творамі сусьветнае поэзіі. Імёны Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча і іншых нашых перадваенных паэтаў ведамы далёка на Захадзе. Не дарма-ж, як падала польская прэса, на зьезьдзе пісьменьнікаў у абарону міру і культуры, які адбыўся ў 1935 годзе ў Парыжу і сабраў цьвет эўрапэйскае інтэлігенцыі ўсіх нацыянальнасьцяў, найгарачэў быў вітаны якраз наш Колас! А ад канца сусьветнае вайны нарасло ўжо новае пакаленьне беларускіх пісьменьнікаў, якія станулі да працы побач з старымі. На Ўсходзе — побач з Коласам, Купалай, Бядуляй, Цішкай Гартным — вырастае чысьлены „маладняк" — Міхась Чрот, Алесь Александровіч, Лужанін, Дубоўка і дзесяткі іншых. На Захадзе — Натальля Арсеньнева, Міхась Машара, Васілёк, урэшце — узыходзячая зорка першае велічыні, Максім Танк, — вось нашы найвыдатнейшыя, але далёка не адзіныя маладыя паэты. Пасьля вайны-ж нарадзілася **беларуская повесьць**: Гарэцкі, Якуб Колас, Зарэцкі, Лынькоў і цэлая чарга іншых — старых і маладых пісьменьнікаў — творыць гэты новы ў беларусаў від эпосу, а вартасьць твораў іх стаіць на роўні эўропэйскае романістыкі. Урэшце расцьвітае беларуская **драматычная творчасьць**, якую выкл-і кала да жыцьця разьвіцьцё беларускага тэатру.

Зачаткі беларускага тэатру сягаюць 50-ых гадоў мінулага стагодзьдзя, калі на менскай сцэне ставілася опэра „Сялянка" (словы Дунін-Марцінкевіча, музыка — Манюшкі). Пасьля наступае на некалькі дзесяткаў гадоў перарыў. Але ўжо перад вайной тэатральная праца ўзнаўляецца. Падчас вайны вядзе гэту працу Вільня; пасьля вайны павадырства пераходзіць да Менску і Віцебску, дзе творацца беларускія дзяржаўныя тэатры (у Менску — ажно два: сталы мяйсцовы і аб'ездны). Сцэнічныя сілы для ўсіх трох тэатраў падгатаўляюцца сьпярша ў слаўнай маскоўскай студыі, і беларуская сцэна хутка да-

ганяе сваіх маскоўскіх вучыцялёў. Пасьля паўстае драматычная школа ў Менску. Пастаноўкі беларускага тэатру штурмам здабываюць сымпатыі шырокіх колаў публікі і выціскаюць з беларускіх мест розныя слабейшыя вандроўныя трупы - расейскія ды ўкраінскія, быўшыя раней без канкурэнцыі. Беларуская сцэна — побач з творамі беларускіх драматургаў — прысвоівае несьмяротныя творы сусьветнага значэньня: Шэкспіра, Мольера, Бомаршэ і іншыя.

За тэатрам ідзе **музыка, малярства, хорэографія** (балет) — ці то як самастойныя віды мастацтва, ці — як складовыя часткі тэатру (балет). **Малярства** на Ўсходзе мае дзесяткі імёнаў, і гэта зразумелае зьявішча, калі прыпомнім, што тамака існуюць беларускія малярскія школы, а маладыя мастакі маюць шырокае дзяржаўнае падтрыманьне. Але і ў нас, на Захадзе, беларускае малярства разьвіваецца ўсьцяж. Імёны Сергіевіча, Чурылы, Сеўрука займаюць пачэснае мейсца ў віленскім малярстве наагул. Леташняя выстаўка прац Сергіевіча сустрэлася з пахвальнай ацэнкай ня толькі беларускае, але і польскае прэсы самых рознародных кірункаў. Мастакі нашы адбіваюць жыцьцё і душу беларускае вёскі, але даюць такжа рэчы, якія маюць агульналюдзкі зьмест. Яны апрацоўваюць беларускія народныя орнаманты, яны сваей працай разьвіваюць пачуцьцё красы ў шырокіх колах беларускага грамадзянства Вільні, а праз беларускія ілюстраваныя часопісы і кніжкі робяць тое-ж і для вёскі. Беларускае яны робяць — агульналюдзкім.

Сучасная беларуская індывідуальная **музыкальная творчасьць** цалком вырасла з народнае. Аб багацьці апошняе ўжо гаварылася Вось-жа беларускія кампазытары, а так сама й некаторыя чужыя, з матываў народных твораць запраўдныя пэрлы. Народная песьня апрацоўваецца і гармонізуецца дзеля беларускіх хораў (у Вільні хор Шырмы, у Менску — Тэрраўскаго), якія арганізуюцца ня толькі ў вялікшых местах, але і на вёсках ды мястэчках беларускіх. Творацца й песьні солёвыя, творацца рэчы для рояля, для скрыпкі, для аркестру. Жывы, колёрытны беларускі танец—побач з песьняй— кладзецца ў аснову сымфонічных твораў; сьледам за Манюшкай. Карловічам, Рагоўскім разьвіваюць творчасьць у гэтым кірунку расейскія і беларускія кампазытары на Ўсходзе. З захапленьнем гармонізуе і выкарыстывае іх сусьветнае славы кампазытар Грэчанінаў (у Парыжу), Галкоўскі і іншыя ў Вільні, Казура — у Варшаве. А побач з гэтым здабываюць эўрапэйскае імя такія беларускія артысты-сьпявакі, як ведамы тэнор Міхал Забэйда-Суміцкі, опэрны артыста, знамяніты выпаўніцель солёвых беларускіх песьняў. Музычная консэрваторыя ў Менску падгатаўляе моцныя падставы дзеля разьвіцьця беларускае музыкі ў будучыні.

Абмежымся гэтымі галінамі новага беларускага мастацтва. Пяройдзем да **беларускае навукі.**

Ужо ў другой палове XIX стагодзьдзя беларускія інтэлігенты, расьцярушаныя сярод чужое нацыянальнае стыхіі, здабыўшы вышэйшую адукацыю, аддавалі свае сілы навуковай працы ў тых галінах, якія датычаць перад усім Беларусі. Сярод іх уславіліся: этнографы Шэйн, Насовіч, Дабравольскі, Нікіфароўскі, Раманаў; гісторыкі Даўнар-Запольскі, Пічэта; здабыў эўрапэйскую славу знамяніты філёлёг, акадэмік і пасьля прэзыдэнт пецярбурскае Акадэміі Навук, праф. Карскі і іншыя.

Пасьля сусьветнае вайны ў Менску паўстаюць першыя беларускія вышэйшыя школы — Пэдагогічны Інстытут, Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт; у Віцебску Вэтэрынарны Інстытут, у Горы-Горках — Сельска-Гаспадарчая Акадэмія. А побач — чысьленыя навуковыя таварыствы і ўстановы, як на Ўсходзе, так і на Захадзе. Беларусы ня толькі працуюць у агульнадзяржаўных навуковых установах Польшчы і СССР, але і ў сваіх уласных. А вынікамі сваей навуковай працы дзеляцца з культурным сьветам, прымаючы чыннае ўчасьце ў міжнародных навуковых зьездах — гісторыкаў, філёлёгаў, географаў і г д. Працы беларускіх навукоўцаў, публікаваныя ў унівэрсытэцкіх запісках і акадэміцкіх выданьнях, узбагачваюць сусьветную навуку. А з цэнтраў беларускае культурнае творчасьці нашы культурныя здабыткі пашыраюцца сярод беларускіх масаў — ці то праз беларускае школьніцтва, дзе яно ёсьць, ці праз друкаванае і жывое слова — там, дзе школьніцтва беларускага няма. Гэтак тое багацьце, якое—дзякуючы творчай працы нашае народнае інтэлігэнцыі — вырастае з народнае глебы, варочаецца да сваіх першапачатных крыніцаў і падыймае ў свой чарод культурны ровень беларускіх народных масаў і места, і вёскі.

Беларуская прэса, якая мае ўжо за сабой слаўныя традыцыі і на Усходзе і на Захадзе, беларускія паважныя часапісы — навуковыя, літаратурна-мастацкія і іншыя дапаўняюць гэты груба кароткімі штрыхамі нарысаваны абраз беларускае культуры — старое і новае. У „Дзень Беларускае Культуры“ мы маем што паказаць, маем чым пахваліцца.

* * *

Тое, што беларусы прыдбалі ў галіне нацыянальнае культуры за апошнія трыццать гадоў, у поўнай меры ўжо апраўдывае існаваньне **беларускага народу, як самастойнае творчае адзінкі ў сям'і культурных народаў сьвету.**

---

АЛЕСЬ ДУБРОВІЧ

# Крапіва.

Зелянее на сонцы пад плотам
і шапоча маркотна крапіва,
што на вёсцы нядоля, бядота,
што так мала жывуць тут шчасьліва.

Што счарсьцьвелага хлеба скарынка
часта ў прочкі ідзе ад абеду;
што ў місцы малая крупінка
ўсё гарцуе ня робячы сьледу,

перад лыжкай імкнець неяк крута,
быццам лоўкая рыбка з-пад сеці;
і лавіць так штодня — ой, пакута! —
што марнеюць ў загонцы тэй дзеці.

Што — зялёная сяньня крапіва —
хаця лашчыцца сонца праменьнем,
ўжо адчула той погляд скваплівы,
што шукаў у ёй з гора збавеньня.

І шапоча крапіва, што блізка
гэны час, час з вясною разстаньня,
што схіліўшыся гора к ёй нізка
перарве яе дзён красаваньне.

Што у хаце галодныя дзеці
калісь справяць над ёю памінкі:
будуць вочкі іх сьвечкай гарэці,
знікнуць з твару нядолі сьлязінкі.

**Вясна, 1936 г.**

---

# А. Ц. Грэчанінаў у Рызе.

З сакавіка ў Рыгу прыехаў сусьветнае славы кампазытар Аляксандр Ціханавіч Грэчанінаў, гэтак добра ведамы беларусам сваей нязвычайна цэннай працай над гарманізацыяй беларускіх народных матываў. Ня дзіва, што прыезд яго ў Рыгу дзеля арганізацыі тамака аўтарскага канцэрту разам з сьпявачкай Т. А. Макушынай, якая выпаўняла творы кампазытара, выклікаў узварушэньне сярод рыскіх беларусаў, прадстаўнік якіх, б. пасол латвійскага сойму У. В. Пігулеўскі сустрэў дарагога госьця на вагзале.

З свайго боку і Грэчанінаў аднёсься да беларусаў вельмі цёпла. Шмат гутарылі, здружыліся. Трэба толькі паслухаць, як ён запаліваецца ўвесь, калі гаворыць аб сваім захапленьні беларускай песьняй, калі сваім старэнькім голасам (яму-ж ужо 73 гады!) сьпявае беларускія мэлёдыі. Сьлёзы заблішчэлі на яго вачох, калі адзін з прысутных пры гутарцы прачытаў яму адрывак з прыватнага пісьма аб ім гр. Л. з Вільні, і тут-жа атрымаў ён пісьмо гр. Ш. стуль-жа. — „Как то легче становится жить, когда видишь, что сделал в жизни что то хорошее, за что даже незнакомые люди тебя любят и ценят!“ — сказаў ён і пачаў апавядаць, як на свой 70-летні юбілей цэлы дзень плакаў, чытаючы узварушана прывітаньні з усяго сьвету.

Не удалося арганізована прывітаць А. Ц. спэцыяльна у беларускай грамадзе. За тое беларусы пасьпяшылі на канцэрт і ахвяравалі тамака кампазытару публічна кветкі і памастацку аздоблены белерускім арнамантам адрас з подпісамі рыскіх беларусаў. На першай староцы адрасу — у рамцы ў беларускім стылю — быў прыгожа напісаны беларускі вершык з размаляванымі загалоўнымі літарамі. А на трэйцяй староцы надпіс: „Дарагому Аляксандру Ціханавічу Грэчанінаву — Вялікаму Тварцу Красы беларускае песьні. — Ад беларусаў м. Рыгі. 5 сакавіка 1937 г.“ (Подпісы). Арнамант і літары намаляваў беларускі мастак П. Мірановіч.

А. Ц. быў вельмі здаволены гэтым знакам прыхільнасьці да яго з боку беларусаў. На вечарыне, якая адбылася пасьля канцэрту і на якой, сярод 30-40 гасьцей, былі і беларусы, ён паказваў усім гэты адрас, расказваў аб красе беларускае песьні.

Падчас канцэрту делегат сабраных тамака беларусаў зайшоў да А. Ц. ў артыстычны пакой і дзякаваў яму за працу для беларусаў.

На канцэрце сярод выкананых твораў Грэчанінава былі прапяяны тры народныя песьні ў апрацоўцы кампазытара: дзьве расейскія і адна беларуская („Зязюля“). І трэба адзначыць, што найбольш воплескаў выпала на долю песьні баларускай. Наагул-жа канцэрт сабраў вялікі натоўп народу: ня толькі ўся саля была поўная, але навет уся эстрада была занята публікай.

У гутарках з беларусамі А Ц. шмат апавядаў аб сваім даволі цяжкім жыцьці загранiцай. Успамінаў аб сваей перапісцы з Вільняй— з грам. Шырмам, аб якім сказаў: „Видно, это очень хорошій, душевный человек“. Расказаў, што ня вельмі даўно апрацаваў дзесяць беларускіх песень, але выдаць іх заграніцай не ўдалося. Дык паслаў іх у Маскву, і тамака іх надрукавалі. „Мой гонорар за гэтыя песьні, — кажа ён, — атрымліваюць мае дзьве старэнькія сястры, якія жывуць у СССР.“

6-га сакавіка беларусы праводзілі Грэчанінава на вагзал, і ён паехаў, горача разьвітаўшыся з сваімі шчырымі паклоньнікамі. Паехаў ён у Тальлін (Эстонія), пасьля у Фінляндыю, скуль на нейкі месяц паедзе ў сталіцу Швэцыі — Штокгольм, дзе будзе госьцем у сваей дачкі, якая тамака стала жыве.

*Латгалец.*

Рыга.

---

# З студэнцкага жыцьця.

Беларускі Студэнцкі Саюз пры Віленскім Унівэрсытэце заложаны яшчэ ў 1920 г.,—гэта адна з найстарэйшых беларускіх арганізацыяў. 14.III.37 г. адбыўся Агульны Гадавы Сход БСС, на якім разглядалася праца арганізацыі ў мінулым годзе і былі выбраны новыя Ўлады.

Мінулы год у БСС, быў годам можа найбольш працавітым. Праца вялася як унутры арганізацыі, так і па за арганізацыяй. З большых імпрэзаў, ладжаных у гэтым годзе трэба адцеміць „Вечар Беларускай Паэзыі і Песьні“ і „Вечар Натальлі Арсеньневай“ — ладжаныя для шырэйшага грамадзянства, каторыя былі значным звбыткам у беларускім культурным жыцьці наагул. Інтэлектуальнае жыцьцё Саюзу праяўлялася ў дыскусыўных зборках і рэфэратах на розныя тэмы, як беларускія так і агульныя. Было такіх зборак у годзе 24.

Тварыскае жыцьцё ў арганізацыі праяўлялася ў сяброўскіх гарбатках, (з якіх адна гумарыстычная *Андрэйкі-Міколкі* стаяла на высокай мастацкай вышыні), суботніках, вечарынах і экскурсыях у ваколіцы Вільні. Адна парутыднёвая летняя сяброўская экскурсыя адбылася ў Наваградчыну (на вазёры Сьвітазь, Кромань і Налібоцкую-пушчу).

Арганізацыя ўтрымлівала цясьнейшы таварыскі кантакт з Украінскім і Літоўскім Студэнцкімі Саюзамі, а таксама з беларускімі студэнтамі ў Варшаве

Бібліётэка Саюзу мае больш поўтысячы кніжак (беларусіка, унівэрсытэцкія падручнікі, розныя).

Слаўны ўжо беларускі хор гр. Р. Шырмы існуе і разьвіваецца таксама ў вялікай меры з удзелам і падтрыманьня беларускай студэнцкай моладзі.

Але студэнцкая моладзь не агранічалася працай у самой арганізацыі і культурна-грамадзкай працай у Вільні. Вялася яна і на вёс-



Новы Ўрад БСС.

Сядзяць зьлева направа: Ў. Клім, В. Жукоўская, А. Дасюкевіч Т. Трахімавічанка, М Канцэлярчык.

Стаяць: А. Засім, Г. Сухая, Я. Каліцкі.

цы. Апрача культуна-асьветнай працы, якую большасьць сяброў праводзіць індывідуальна, было Саюзам зложана больш 30 просьбаў на дазвол чытаць навукова-популярныя лекцыі на прасторы 10 паветаў (чытаць мелі іх таксама і варшаўскія студэнты). Хаця просьбы былі зацьверджаныя Рэктарам Унівэрсытэту, на гэтыя просьбы было атрымана 30 адмоўных адказаў.

Перашкодамі ў працы арганізацыі былі: закрыцьцё на даўжэйшы час Унівэрсытэту, з прычыны проціўжыдоўскіх забурэньняў, і забраньне адміністрацыйнымі ўладамі падчас рэвізыі актаў БСС (прычыны нязнаныя).

Да БСС належыць большасьць беларускай студэнцкай моладзі Віленскага Унівэрсытэту; у гэтым годзе арганізацыя мела 65 сяброў. За ўсё існаваньне БСС праз арганізацыю прайшло каля 300 асоб.

Грашова арганізацыя апіраецца перадусім на сяброўскіх складках, далей на даходах з розных імпрэз, ахвярнасьці грамадзянства і зваротах пазычак.

Праца, як бачым, вялася студэнтамі шырокая і ўсёбаковая, тымбольш, калі сабе усьвядомім, што матэр'яльнае палажэньне большасьці вельмі дрэннае. Ацэніваючы гэтую працу Агульны Сход БСС 14 III 37 г. выразіў падзяку ўступаючаму старшыні М. Шчорсу і цэламу Ураду Саюзу. У новы Урад былі выбраны: старшыня — А. Дасюкевіч, сябры Ураду — Жукоўская, Канцэлярчык, Клім і А. Засім.

Ужо з гэтага кароткага агляду працы БСС за мінулы год, відаць, што студэнцкая моладзь добра разумее свае задачы і належна прыгатаўляецца да вядзеньня беларускай грамадзкай, культурнай і навуковай працы ў будучыні

Факт росту новых кадраў беларускай інтэлігенцыі з вышэйшай асьветай адмячаем тут з радасьцю і здаваленьнем.

### Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы.

Гэта другая студэнцкая арганізаыя на Віленскім Унівэрсытэце. Мэта яе — навуковая праца ў розных галінах беларусаведы. 13.III.37 у гэтым Т-ве быў выбраны новы Урад, у склад якога ўвайшлі: старшыня — А. Шукелайць, сябры — В. Жукоўская, М Смаршчок, Ст. Нарушэвіч.

---

# На асьвету для моладзі.

Прыходзіць канец школьнага году. Новыя маладыя беларускія сілы атрымаюць права доступу ў вышэйшую школу. Многа ёсьць такіх, якія ўжо маюць гэтае права. Але большасьць з іх змушана заставацца на вёсцы, у мястэчку і павялічываць кадры безработных, бо ня мае матар'яльнае магчымасьці, каб здабыць сабе вышэйшую асьвету.

Амаль усе нацыянальнасьці ў Польшчы даюць арганізаваную помач сваей моладзі. З такой дапамогай для нашай моладзі павінен прыйсьці і Беларускі Народ, яго найшырэйшыя кругі сьвядомага грамадзянства. Нам патрэбны адукаваныя працаўнікі, якія будуць служыць свайму народу, хочуць працаваць для яго; нам патрэбны культурныя сілы па ўсім галінам веды, спэцыялісты работнікі на ніве народнай: эканамісты і праўнікі, мэдыкі і аграномы, інжынеры і кооперататары. Без такіх фахоўцаў, якія любяць свой народ, сваю бацькаўшчыну, мы не палепшым свайго палажэньня. Мы яшчэ павінны дапамагчы і тым студэнтам, якім пагражае перарыў заняткаў з браку матар'яльных срэдстваў.

Ахвяры прысылайце праз рэдакцыю, якая будзе передаваць іх адумысным арганізацыям дзеля дапамогі студэнцкай моладзі.

Справаздачы аб прыходзе і расходзе на паступіўшыя ахвяры будзем друкаваць на старонках „Беларускага Летапісу".

---

МАКСІМ ТАНК.

# Журавінавы цьвет.

*(Адрывак з паэмы).*

Памалу
з ніў гарбатых
сьнег спаўзаў
ніжэй ў лагі, дзе каўтуном лаза
з алешнікам сплялася над ракой.
З парваных ветрам, сонцам струн зямлі,
з барозян мокрых, збуджаных вясной,—
разорамі зьбягаючы плылі
крыніцы звонючыя серабром.
Пад межамі, дзе-недзе шараком,
сьнег прытаіўшыся яшчэ ляжаў.
На чорныя барозны мокрых скіб
лягла, як цень, падзольная іржа.
Шнурамі ўдаль цягнуліся пяскі.

Начамі месячнымі аж да дня
бялела ў прымаразках цішыня.
Прыслухаешся: рана, ледзь чуваць,
шуміць вада на грэблі пад мастом,
ды сонна шэпча зсохшая трава
над верхаводкай з шэрым лазьняком.
Як толькі на альховыя сукі
навесіць дзень зару, цяцярукі
падымуць спрэчку п'яную і шум.
Часамі вецер з плёсаў прынясе,
дзе зелянее балатоў кажух,
плач кнігавак,
крык журавоў,
гусей...

І грудзі п'юць раззвоненую сінь.
І сам ты сэрцу рады не дасі.
хвалюе песьня чорная разор,
і сонцам вочы пачынаюць тлець,
ў глыбокі затапіўшыся прастор
і ў неба сіня - залатую брэдзь...
Трывожна толькі думы ўстаюць:
чым ты засееш паласу сваю?
які ўраджай з дажынак прынясеш?
шукаць мо долю прыйдзецца ісьці?..
І на шырокай горам паласе
разсыпаліся
думы,
як сяўцы...

А жаўранак над польным дыванам
гарачым сеець залатым дажджом
насевак звонкі з сонечнай сяўні.
На межах дрэміць жоўты вербалоз.
Ўдалі, за пераваламі ціха сьніць
сны жытня - саламяныя сяло
Над лесам нізка з ручніка зары
зьвісаюць
самотканыя
махры,
залоцючы бярозаў серабро,
яленец і паджарую сасну...
Яшчэ ня змыў іржы стальны нарог, —
плуг цяжка рве і крыша баразну.

Вільня, 23.III. 1937 г.

# Міжнародная мова Эспэранто.

У „Летапісу“ за 1933 год, № № 3—4 і 5—6, распачата азнаямленьне чытачоў гэтага часапісу з міжнароднай мовай эспэранто. Тым з нашых чытачоў, якія не знаёмы з гэнымі артыкуламі і не могуць іх дастаць — дадзём скарочаны зьмест.

I.

Патрэба міжнароднай мовы адчувалася даўно і часткова здавалялася. У пэўных межах, асабліва ў навуцы і літэратуры гэтую ролю гуляла ў старажытнасьці грэцкая, пазьней лацінская мова, якая ў навуцы датрывала яшчэ да XVIII і нават XIX стагодзьдзя пасьля Н. Х. — У сучаснасьці французкая мова ўжываецца ў дыплёматыі, а нямецкая і ангельская мовы ў зносінах гандлёвых і тэхнічнай тэрмінолёгіі..

Значэньне міжнароднай мовы асабліва вялікае цяпер, калі гаспадарчыя і культурныя зносіны абымаюць амаль усе народы земнай кулі.

Супольная мова памагае збліжэньню паміж людзьмі і прысваеньню культурных здабыткаў чужых народаў.

Гэтую патрэбу часткова здаваляе навучаньне ў школах чужых моваў і пераклады твораў на іншыя мовы. Аднак адзіная міжнародная мова ёсьць вялікая эканомія сіл, бо цяжэй вывучыць добра некалькі моваў, як адну і перакласьці кожны вартасны твор на адну мову, чым на колькі ці некулькі дзесяткаў іншых моваў, калі будзем гаварыць хаця аб больш пашыраных мовах болей культурных народаў.

Сьведамае шуканьне аднэй міжнароднай мовы йшло ў трох напрамках: прыняць за міжнародную мову лацінскую (не жывую—памёршую), адну з жывых моваў, ці стварыць штучную мову.

Лацінская мова, пад назовам Інтэрлінгва, мае і цяпер арганізаваных староньнікаў у ліку каля 300 чалавек. На перашкодзе пры-

няцьцю лацінскай мовы, як міжнароднай, стаіць труднасьць яе і недахоп слоў для новых рэчаў і паняцьцяў сучаснасьці.

Прыняцьцю за міжнародную аднэй з жывых моваў стаіць на перашкодзе, паміма іх труднасьці, тое, што народ, мова якога прынята за міжнародную робіцца ўпрывілеяваным і дастае ад гэтага шмат выгадаў. А бадай найвялікшая перашкода — гэта нацыянальны гонар кожнага народу.

Трэцьці шлях — штучная мова. Прынцыпова, не ўсё штучнае ёсьць горшае за натуральнае, а часам бывае і лепшае, прыкладам паравозы ці аўтомобілі ў параўнаньні з конямі, як сродак комунікацыі.

Пры гэтым трэба заўважыць, што мова не ёсьць рэч прыродная чалавеку, а штучная для яго: дзіцё трэба вучыць мове і яно будзе гаварыць тэй мовай, якой яго навучаць.

Першы вядомы проэкт штучнай мовы сягае больш трохсот гадоў таму назад і дадзены вядомым францускім вучоным Дэкартам у 1629 г. З таго часу праектаў штучных моваў налічваецца да 380.

Шырэй вядомая перад эспэранто штучная мова, гэта—Воляпюк, апублікаваны ў 1879 годзе, г. ё. на 8 гадоў раней за эспэранто. Да гэтага часу (1878 г.) аўтар мовы эспэранто Замэнгоф ужо напісаў граматыку і слоўнік, хаця пазьней і перарobленыя.

Воляпюк не меў вялікага пашырэньня з прычыны труднасьці, прытым пасьля эспэранто шмат воляпюкістаў перайшло да яго.

Пасьля эспэранто зьявіліся яшчэ проэкты міжнароднай мовы, пераважна пераробкі мовы эспэранто,

Аднак можна сказаць, што адна толькі мова эспэранто вытрымала экзамен на міжнародную мову, давяла прынамсі роўнацэннасьць, калі не перавагу штучнай мовы над натуральнай, стварыўшы багатую літэратуру, як прыгожую, так і навуковую, перакладную і арыгінальную і атрымала адносна вялікае пашырэньне.

## II.

Аўтар мовы эспэранто Лазар-Людвік Замэнгоф, доктор-окуліст, сын вучыцеля новых моваў у сярэдніх школах гэбрэйскай нацыянальнасьці. радзіўся у Беластоку ў 1859 годзе.

Марыць аб аднэй міжнароднай мове ён пачаў яшчэ у дзяцінстве. Гэты напрамак яго імкненням далі варожыя адносіны паміж сабой розных нацыянальнасьцяў беластоцкага жыхарства — рускіх, палякаў, немцаў і гэбрэяў (аб беларусах тады яшчэ не гаварылася). Матывамі яго далейшых шуканьняў і працы было ўхіліць гэтую варожасьць між народамі.

Пераведзены з беластоцкай рэальнай школы у клясычную гімназію ён захапіўся старажытнымі мовамі і пэўны час марыў аб увядзеньні аднэй з іх, як міжнароднай. Пазьней аднак, неясна яшчэ, пачаў марыць аб новай штучнай мове. Ён выдумляў багацейшыя скланеньні і спражэньні, аднак часта ў яго апускаліся рукі перад бясконцым лікам граматычных формаў і таўстымі слоўнікамі: гэтая праца здавалася яму вышэй чалавечых сіл, аднак ізноў ён варочаўся да сваей мары. Знаёмства ў пятай клясе гімназіі з ангельскай мовай паказала яму, што багацьце граматычных формаў не ёсьць рэч неабходная. Граматыка пачала таяць як лёд у руках Замэнгофа. Аднак вялічэзныя слоўнікі не давалі яму супакою.

5000

Аднойчы, быўшы ў 7-ай клясе гімназіі, ён прыпадкова зьвярнуў увагу на надпіс—„Швейцарская“, які шмат разоў ужо бачыў і пасьля на вывеску „Кондитерская“. Гэтая „скэя“ зацікавіла яго і паказала што суфіксы (устаўкі) даюць магчымасьць з аднаго слова тварыць іншыя словы, калі паасобныя суфіксы будуць мець сталае акрэсьленае значаньне У гэтым было гэніяльнае адкрыцьцё Замэнгофа — скарыстацца сілай, якая ў натуральных мовах дзеіць толькі часткова, сьлепа, нерэгулярна і няпоўна. Гэтая думка захапіла яго — ён адчуў адразу грунт пад нагамі. На страшэнныя, вялічэзныя слоўнікі упаў прамень сьвятла і яны пачалі раптоўна зьменшацца перад яго вачыма. Хутка пасьля гэтага ён меў напісаную ўсю граматыку і невялічкі слоўнік.

Матар'ялам для слоўніка паслужылі пераважна мовы романо-гэрманскія. Апроч таго Замэнгоф скарыстаўся скарбам ужо гатовых слоў міжнародных, якія вядомы ўсім культурным народам.

У 1878 г. мова была ўжо больш-менш гатовая, хаця між тагачаснай „лінгва унівэрсале“ і пазьнейшым эспэранто і была вялікая розьніца. Замэнгоф, тады вучань 8-ае клясы, расказаў аб ёй сваім таварышам. Большасьць іх прывабіла гэтая ідэя і зьдзівіла лёгкасьць мовы — яны пачалі вывучваць яе. 5-га сьнежня 1878 г. адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне нарадзінаў мовы. Падчас сьвяткаваньня гаварылі прамовы і пялі гымн у новай мове. Пачатак гымну быў: „Хай ненавісьць зьгіне між народамі, усё чалавецтва хай злучыцца ў адну сям'ю“. На стале ляжала некалькі перакладаў у новай мове. Праз паўгода пасьля сьвята, скончыўшы гімназію, ўсе разышліся. Будучыя апосталы мовы, спаткаўшы насьмешкі дарослых людзей, зракліся яе і астаўся адзін аўтар яе.

Так скончыўся першы пэрыяд мовы. Быўшы яшчэ за малады, каб выступіць публічна, Заменгоф рашыў пачакаць гадоў 5-6, каб выпрабаваць яе на падставе практыкі.

Да 1878 году бацька спагадаў сыну ў яго працы, але пазьней некаторыя прыяцелі напалохалі яго, што сын хутка звар'яцее, калі будзе аддавацца сваей неадчэпнай думцы. Бацька змусіў сына абяцаць, што той адложыць сваю справу да сканчэньня унівэрсытэту і дастаў ад яго ўсе рукапісы. Пасьля кіраваны любоўю да сына ён спаліў тайком усе паперы. Аднак Людвік-Лазар ведаў на памяць усю сваю працу і нічога не прапала.

Толькі ў 1887 годзе, распачаўшы ўжо лекарскую практыку ў Варшаве, не знайшоўшы ў працягу двух гадоў выдаўца, Замэнгоф сам выдаў, пры грашовай дапамозе свайго цесьця Зільберніка, сваю першую брашуру: „D-ro Esperanto. Internacia lingvo. Antaŭparolo kaj Plena Lernolibro (por Rusoj)“.

„Перад гэтым, пісаў пазьней Замэнгоф, я адчуваў, што стаю перад Рубіконам і ведаў, які лёс чакае доктара, залежнага ад публікі, калі гэтая публіка бачыць у ім фантазёра, чалавека, які займаецца пабочнымі справамі; я бачыў, што стаўлю на карту ўвесь будучы супакой і існаваньне маё і маёй сям'і. Аднак я ня мог пакінуць гэтую ідэю, якая ўвайшла у маё цела і кроў — я перайшоў Рубікон“.

Жонка безупынна памагала яму і дадавала бадзёрасьці ў працы. Цесьць таксама вельмі цікавіўся яго справай і памагаў матар'яльна пры выданьні першых кніжак.

*Ф. Стэцкевіч.*

(далей будзе)

---

# Народная паэзія ў эстонцаў.

Ужо ў 1932 г. у Эстонскім Архіве Народнай Паэзіі было сабрана 374.691 бач. рукапісаў, на якіх было запісана каля 80.000 даўнейшых народных песьняў з пачаткавымі рымамі, 20.000 навейшых народных песьняў з канцавымі рымамі, 115.000 дзіцячых песьняў і рымаў, 5000 варыянтаў птушыных песьняў і іншых гукаў прыроды, 5.009 гульняў і скокаў, 107.000 прыказак і тыповых зваротаў, 73.000 загадак, 56.000 народных баек, 160.000 апісаньняў вераваньняў і звычаяў, разам больш 630.000 фольклёрыстычных пазыцыяў, з дадаткам 16.000 народных мэлёдыяў, некалькіх тысяч языковых зацемак і географічных назоваў, і многіх этнографічных, археолёгічных, культурнагістарычных апісаньняў і інш.

Так цэняць і так зьбіраюць сваю народную творчасьць эстонцы. Многа ўжо сабрана і беларускай народнай творчасьці, але ўсёжтакі ў нас гэтая справа стаіць куды горэй, як у эстонцаў. Тымбольш, што нашае народнае багацтва куды большае, чым малога эстонскага народу (эстонцаў ёсьць 1.000.000, беларусоў 12.000.000), — і таму прыйдзецца ўлажыць яшчэ многа працы, каб гэтыя нашыя скарбы не загінулі нам назаўсёды.

---

**Рэдакцыя „Беларускага Летапісу" прыступае да сабіраньня этнаграфічных матар'ялаў на нашых землях. Дзеля гэтага просьба да нашых падпішчыкаў, чытачоў і культурных працаўнікоў на вёсцы запісаць у сваей мясцовасьці і прыслаць у рэдакцыю: песьні па магчымасьці з нотамі, казкі, прыказкі, пагаворкі, загадкі, апісаньні абрадаў (вясельле, хрэсьбіны, дажынкі, купальле, варажбы, гульні і г. д.). Пры запісаным неабходна падаць наступныя дадзеныя: мейсца і час запісу, ад каго запісана (імя, прозьвішча і век), хто запісаў, а пры песьнях адзначаць у якую пару году і пры якіх абрадах пяецца. Запісы павінны быць выразныя на адным баку карткі, прычым асобнай для кожнай песьні, прыказкі, пагаворкі і г. д. і з захаваньнем асаблівасьцяў мовы у данай мясцовасьці. Калі можна зрабіць фатаграфіі характэрных відаў будоўлі, вёсак, тыпаў, абрадаў, працы і г. д., то вельмі пажадана мець іх, лепшыя з якіх будуць выкарыстаны ў „Бел. „Летапісу". За найлепшыя працы, акуратна і добра зробленыя, рэдакцыя выдасьць прэміі. Па інфармацыі, калі што ёсьць неяснае, просім зьвяртацца ў рэдакцыю.**

---

# Наша хроніка.

*** БЕЛАРУСКІЯ МАЛАДЫЯ СЬПЯВАКІ. У Варшаўскай Кансэрваторыі канчае сьпеў студэнтка-беларуска Чарняўская. 6 лютага на вечары, ладжаным варшаўскімі беларусамі ў салі ім. Карловіча, яна з вялікім пасьпехам выканала рамансы К. Галкоўскага: „Адна ізноў адна", на сл. К. Буйлы, „Маладая Беларусь", на сл. Я. Купалы, і апрацоўку народнай песьні таго-ж




кампазытара—„А за ліхімі за марозамі“. Апрача таго выступала дуэтам з барытонам А. Панько, таксама студэнтам кансэрваторыі: выканалі з вялікім пасьпехам дуэт—„Тры сыны“, муз. К Галкоўскага на словы Я. Купалы. Першы беларускі вечар у Варшаве прайшоў вельмі добра. Маладым артыстам жадаем пасьпеху.

⁂ БЕЛАРУСКІ КАНЦЭРТ. 3-га сакавіка ў беларускай гімназіі адбыўся канцэрт. Выступалі салісты на скрыпцы й віялянчэлі, жаночы хор вучаніц гімназіі, народныя танцы „Лявоніха“, „Юрачка“ і „Чарот“ у пастаноўцы Я. Хвораста і мяшаны хор пад кіраўніцтвам Р. Шырмы. Публікі сабралася поўная саля пераважна моладзі; канцэрт прайшоў з поўным пасьпехам.

⁂ ПУШКІНСКІ ВЕЧАР. 14 сакавіка віленскія беларусы ладзілі вечар паэзіі Пушкіна. Рэфэрат аб Пушкіну прачытаў В. Багдановіч. Былі прадэклямаваны два вершы Пушкіна ў арыгінальнай расейскай мове і некалькі беларускіх перакладаў Максіма Танка.

⁂ АБВЕШЧАНЬНЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ. 25 сакавіка мінулі 19-я ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

⁂ БЕЛАРУСКІ ТЭАТРАЛЬНЫ КООПЭРАТЫЎ. У Беластоку ужо зарэгістраваны судовымі ўладамі беларускі тэатральны коопэратыў „Полымя“, статут якога абыймае ўсю Польшчу.

⁂ У ЛАТВІІ. „Цяжкія годы пераўжываюць тут беларусы, — піша нам беларускі работнік з Латвіі. Фактычна ўся культурна-грамадзкая праца спынена, разгромлена амаль дашчэнту. Асталася ў Рызе, замест 3-х пачатковых 6-ці кляс... толькі адна, а вучыц... сы, гімназія, дзіцяч... дзьве вячэрніх шко... рослых — зьліквідаваны. Некалькі вучыцялёў старэйшага веку дасталі пэнсію, некаторыя з маладзейшых часова накіраваны на маленькія пасады „заступнікаў вучыцеля“ у „мяшаныя“ школы, дзе апынуліся і беларускія дзеці, а рэшта выкінута на брук. Пад час перавароту 15.V.1934 году адбываліся масавыя арышты і сярод белорусаў, забіралі нават хворых. Весткі аб беларускай долі ў Латвіі, якія часам зьмяшчаюцца ў віленскіх беларускіх газэтах, выклікаюць таксама арышты, як гэта мела мейсца ўжо ў 1936 годзе. Выдавецкая праца спынена таксама. Ня гледзячы на такія цяжкія ўмовы, латвійскія беларусы не падаюць духам.

Часта спатыкаем у Латвіі беларускіх хлапцоў і дзяўчат з Віленшчыны. Кожны год 30 — 40 тысяч чалавек прэцца сюды на працу. Галоўным чынам дзяўчат, якія рассыпаюцца па латыскіх хутарах у Курляндыі. Эксплёатуюць іх тут без усякага сумленьня. А бяруць іх таму, што яны таньней за мяйсцовых ды паслухмяныя, як авечкі, як кітайскія кулі, як нэгры на плянтацыях! І сьмяюцца гаспадары, што першы месяц ніяк ня можна накарміць парабка, або дзяўчыну: — Што дасі — усё зьесьць адразу!

Некалькі дзяўчат за аборты, якія тут забаронены, трапілі ўжо ў турму. А вінаваты ў гэтым іхнія працадаўцы — згвалціць гаспадар дзяўчыну, а потым дамагаецца, каб зьнішчыла дзіцё“.

Рэдактар - Выдавец: Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

Друк. І. Баеўскага. Вільня, Татарская вуліца 13.